УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4Беи)-5
Б24

**Барадулін, Р.І.**

Б24 Каб аднойчы: вершы / Рыгор Барадулін; укладанне Алесь Камоцкі; фота Джон Кунстадтэр. — Мінск: А. А. Калоша, 2016. — 44 с.: фат.

ISBN 978-985-90307-4-1

Магія паэзіі Рыгора Барадуліна ў нізцы лірычных песень Алеся Камоцкага, аздобленая фотаздымкамі Джона Кунстадтэра.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)-5**

**ISBN 978-985-90307-4-1**





# Каб аднойчы



Рыгора Барадуліна,
Алеся Камоцкага
і Джона Кунстадтэра




**Вы зблыталі мяне са мной**,
Абраны Вамі ў гэтай зале
Ня столькі я, а болей той,
Каго Вы некалі кахалі.

Я Вашай нагадаў журбе,
Што хвалі човен ашукалі,
І нагадаў я сам сабе
Таго, каго Вы не кахалі.

Усё пад небам варажба,
Усіх прымае сьвет варожа,
У кожнага свая журба,
Мы іх і пазнаёмім можа.

Сьмяецца рэдка лёс-айчым,
З чужой бяды ён кпіць ахвочы,
А мы пяшчотна памаўчым –
Няхай гавораць нашы вочы.

20




**Вы мне жыцьцём і забыцьцём былі**,
І першым і апошнім спадзяваньнем.
За Вамі я ішоў на край зямлі,
На выспу сноў, што звалася каханьнем.

За Вамі йшоў, і Вы мяне вялі
Па сьцежках роспачы і ўратаваньня,
І я ня ведаў скончыцца калі
З жаданымі пакутамі блуканьне.

Я адставаў, я Вас дагнаць хацеў,
Нясьмелы ў ранішніх сваіх намерах,
Рака тугі цякла і ўсё круцеў
З агеньчыкам мальбы чаканы бераг.

У шчырасьць небыцьця рака ўцячэ,
Сябе саміх дагнаць ня змогуць хвалі,
Ня ведаю – ці будзеце яшчэ,
Ды дзякуй, што былі і што кахалі.




**Зорка босая** йшла па зямлі,
Я хацеў ёй купіць чаравічкі,
Толькі як згаварыцца калі
У яе незямныя прывычкі.

Зорка босая йшла па расе,
І сьляды яе не астывалі,
І вятры слугавалі красе,
Халады ад яе адставалі.

Зорка босая йшла нацянькі,
Бо спазьніцца баялася дужа,
Дзе ступала – цьвілі васількі,
Дзе стаяла – ўсьміхалася ружа.

Зорка босая йшла ў тумане
Кладкай зыбкай над хітрай вадою,
Зорка босая йшла да мяне,
Каб аднойчы назвацца табою.

18




**Ішла над ціхім лесам поўня,**
Расы чакалі верасы,
Пад вербамі ў нагрэтым чоўне
Дзяўчына мыла валасы.

Яшчэ худзенькімі рукамі
Вязала мокрыя вузлом,
Усьмешка па вадзе блукала,
Хмурынкі возера вязло.

Прасілася ў косы стрыжка,
Шаптала з берагам карма,
А косак не хапала крышку
Каб дзьве лілеі ўтрымаць.

Ледзь-ледзь хавалі зайздрасьць хвалі,
Аж закіпалі ў трысьці,
Мяне і човен падмывалі
Далёка з юнай заплысьці.

17




**Княгіня хараства**, я верны Ваш халоп,
Капрызаў Вашых неадступны лёкай,
І колькі навальніц не адгуло б,
Мне не наблізіцца да Вас далёкай.

Я ведаю, што і ня ведаеце Вы,
Хто ў Вас адну нахабна закаханы,
Хто толькі думкаю аб Вас жывы
І на крыжы мілосьці ўкрыжаваны.

Вы долам, як нябёсамі йдзяцё
Каб у прыгнечанай душы сьвітала,
І радуецца, як дзіцё, жыцьцё,
Што на зямлю лагода завітала.

Зірне на Вас – зарок забудзе мніх,
Бяз Вас прыдворня ўздыханцаў гіне.
Дык ведайце, што першым сярод іх –
Я, Ваш халоп пакорнейшы, Княгіня.

16




**Коні** жарсьці шалёныя,
Часам не зацугляныя,
Як крыніцы бяздонныя,
Не старэюць каханыя.

Веснавымі сьцяжынамі
Ходзяць словы чаканыя,
Незямнымі жанчынамі
Узьнікаюць каханыя.

Летуценнымі зорамі
Цені дзён зашаптаныя,
Над сівымі прасторамі
Валадарацъ каханыя.

Не абразяцца льдзінамі
Хвалі раскалыханыя,
Застаюцца адзінымі,
Маладзеюць каханыя.

15




Вабную і трапяткую,
Вас шапчу, па Вас шалею,
**Вы лампада**, у якую,
Мне карціць падліць алею.

Як туман той над ракою,
Сон сплывае з непрыкмету,
Вы лампада, за якою
Я пайду на край сусьвету.

Мне нідзе няма спакою,
Крык мне толькі імпануе,
Вы лампада, без якое
Змрок у сэрцы запануе.

З Вамі небасьхіл шыкуе,
І бляднее зорак варта,
Вы лампада, у якую
Добры кнот уставіць варта.

**14**




**Мне не хапае** Вашай цішыні,
Ў якой чуваць як вейка ападае,
Мне не хапае Вашай вышыні,
З якой зьнікае зьнічка маладая.
   Як сьветла зьнічка кленчыла зямлі,
   Мы на яе набожна загадалі,
   Пакуль нябёсы нашымі былі,
   Маўчаць мне Вашы вочы загадалі.
Мне ўпэўненасьці Вашай не стае,
Мне не хапае Вашага адчаю,
Я забываю на гады свае
І ўва ўспамінаў сьмеласьць пазычаю.
   Сваю нясьмеласьць некалі таіў
   І мроіў некім, гэта значыць Вамі,
   З крыніцы свойскай жаўрука паіў,
   Каб ён зьвінеў над спраўджанымі снамі.
Мне не хапае Вас і толькі Вас,
Ручны жаўрук даўно жыве ў блакіце.
А Вы мяне ці ўспомнілі хоць раз?
Як не лістом, хоць рэхам адкажыце.

**13**




**Надвор’е** стомленай душы
Прагнозу не падпарадкуецца.
Анёл спагады апякуецца
І смутны хмель ліе ў каўшы.

На сподзеў п’е душа з каўшоў
Каб паступова праясьнілася
Усё, што ў снах вясновых сьнілася,
Пакуль па стрэхах дождж ішоў.

Душа прачнецца – і наноў
Няўдзячныя атлумяць клопаты,
Цьвярозы дзень учыніць допыты –
Што там было, ў краіне сноў?

**12**




**Прашу ў спагады** Вашае рукі –
Вясельле мы згуляем баравое,
Заручаць нас у небе жаўрукі,
І срэбны ложак нам засьцеляць хвоі.

Дагоніць рэха нашу цішыню,
І чуткі не абразяць нашу згоду,
І закалышуць хмары вышыню,
Самота ўспомніць даўнюю лагоду.

І цені пераблытаюць сябе,
Сны крозамі, а крозы стануць снамі,
Пачну наіўна верыць варажбе,
Забудуся на ўсё на сьвеце з Вамі.

Хачу напіцца з радаснай ракі,
Удачу запрасіць хутчэй у госьці,
Прашу пакорна Вашае рукі,
Каб не адбіўся я ад рук мілосьці.

11




**Прашу цябе** вяльможна, разьвітаньне,
Не падганяй, шляхі не караці.
Яшчэ не падрасло маё каханьне,
Яно яшчэ разгубіцца ў жыцьці.
Цябе баіцца першае спатканьне,
Яно здалёку да мяне прыйшло,
Так зноў грахоў баіцца пакаяньне,
Баіцца цемры сьмелае сьвятло.
Малю цябе трывожна, разьвітаньне,
Туман начэй заўчасна не разьвей,
Яшчэ маё малее дакараньне,
І не ахрып сьвітальны салавей.
Цябе баіцца першае маўчаньне,
Яно адно пра ўсё сказала мне,
Так рук свіах баіцца дакрананьне,
Баіцца дол, што хваля захлыне.
Крычу табе астрожна, разьвітаньне,
Як зваць маю самоту не пытай.
Прыйдзі тады, калі мяне ня стане,
І смутак мой са сьветам разьвітай.

10



Em Am Em

Am B7 Em Am B7 Em Am B7 Em

Am B7 Em Am B7 Em Am B7 Em

**Спадарыня,** дазвольце пачакаць
Пакуль на небе ўзыйдуць зоркі ў ночы,
Дазвольце папрасіць і Вашы вочы
Да ціхай згоды сьцежку пашукаць.

Спадарыня, мне сумна аднаму,
Спадарыня, мне аднаму сьцюдзёна.
Пра Вас адну я думаю штодзённа,
Марнею, і ня ведаю чаму.

Бяз Вас нямее жарсьць мая цяпер,
Бы літары на стомленым граніце,
Мяне з увагі Вашай не ганіце,
За дзьверы не прасіце мой давер.

Спадарыня, дазвольце не маўчаць,
Спадарыня, дазвольце запытацца –
Ці можна ў Вас да раніцы застацца,
Каб разам дзень наступны прывітаць?

**9**




**У поўным келіху** віны
Крычэлі вочы захапленьня,
Мы ў ночы той былі адны
Начлежнікамі летуценьня.

Чакаў у небе Валапас,
Калі ў душу самота гляне,
Лагоднасьці вучыла нас
Сьляпая логіка каханьня.

Было нам добра на зямлі,
Нібы за пазухай у Бога,
Мы ведалі, што мы былі
І верылі, што будзем доўга.

Гулі наіўнасьці чмялі,
Пяшчотай поўніліся соты,
Віно цьвярозае пілі
За дыялектыку маркоты.

8




**Успомніце хоць раз** таго забытага,
Што незабытна помніць толькі Вас,
Магчыма і ня ведаеце Вы таго,
Што сьвет далёкай зоркі не загас.

Успомніце хоць раз свайго ня першага,
Якому першай засталіся Вы,
У радасьць падарожжа не завершана,
Расстаньне ў неба ўзьнесьлі журавы.

Успомніце хоць раз таго наіўнага,
Што верыў Вам, што верыць і цяпер,
Успомніце хоць раз таго парыўнага,
Што парываўся ўкрасьці Ваш давер.

Успомніце хоць раз таго раўнівага,
Што раўнаваў Вас да сябе самой,
Успомніце хоць раз таго шчасьлівага,
Які навек заручаны з журбой.

7




**Я выдумаў цябе**, ці ёсьць
Ты сапраўды на гэтым сьвеце,
Як ёсьць адчай, як ёсьць мілосьць,
Як ёсьць сьпякота ў кожным леце.

Калі ня выдумаў, тады
Чаму цябе няма са мною
Ля абначэлай чарады,
Пад аблачынай праліўною?

Ля абначэлай чарады
Маіх гадоў, што засталіся
Шукаць забытыя сьляды
На доле і ў нябеснай высі.

Пад аблачынай праліўной
Маёй гаркоты і маркоты,
Па той адной, па той адной,
Якую ведаеш даўно ты.
Табой назвалася яна –
Чыя мана, чыя віна...

6




**Я да цябе хачу ляцець** як сьнег,
Але скажы – што будзе як растану,
Зьбянтэжыць можа твой сьпякотны сьмех
Маю непрашаптаную пашану.

Хачу імчаць на быстрым скакуне,
Але скажы – дзе табуны начуюць,
Я б вецер асядлаў, каб вёз мяне,
Ды табуны вятроў мяне ня чуюць.

Хачу на чоўне да цябе плысьці,
Але скажы – калі ў ракі ймяніны,
Лёд на рацэ, а берагам брысьці
Марудна прывыкаюць успаміны.

Я да цябе лячу, імчу, плыву
У апантаных мроях, снах бяссонных.
Крычу ў вякі, згубіўшы галаву,
І крык сузорыцца ў нябесных схонах.

5




**Я ёсьць** таму, што Вы былі са мной,
Што ў думках Вас я называў сваёю,
Я ціха сам дамовіўся з маной
Спрыяць майму шалёнаму настрою.

Ды я дапраўды зьнелюбеў мане,
Яна Вам змоўцу выдала з ахвотай,
Бяз Вас мяне няма, няма мяне,
Апаленага Вашаю пяшчотай.

Вы распалілі вогнішча ўва мне,
Яно гарыць, і я ў ім дагараю,
Няўжо ў траецкім ці ў грамнічным сьне
Стаялі Вы на ганку небакраю.

Смуга тугі ў душы не растае,
І новы ганак чуе крокі раньня,
Я дагару, пагаснуць дні мае,
Ды не пагасьне вогнішча каханьня.

4




**Я не сьпяшаюся зіму сустрэць**,
Пакуль гасьцюе лета ў сэрцах нашых,
Пакуль шалее хмель у поўных чашах,
Агню лагоды хочацца гарэць.

Я Вас праводжу як праводзяць ноч,
Сьцямнелую ад жарсьці і зьнямогі,
Кілімы ўдзячнасьці сьцялю пад ногі,
Шлю рэха радасьці ісьці наўзбоч.

Як раніцу я сустракаю Вас,
Ад суму адзічэлы і ўначэлы,
Крылатага стральца сьляпыя стрэлы
Цаляюць у ратунак мой якраз.

Баюся страціць Вас і пастарэць,
Мая вясна і лета залатое,
Мне варта жыць было б хаця б на тое,
Каб Вас неразгаданую сустрэць.

3




**Як маладзік** я сірацеў,
Высока зорыліся Шалі,
Я Вашым ценем быць хацеў,
А Вы мяне не заўважалі.

Шлях да сьвітаньня карацеў,
Аблокі сьпёку жабравалі,
Я Вашым смуткам быць хацеў,
А Вы са сьмехам сябравалі.

Як адзінокі птах ляцеў,
Лічыў як вёрсты небасьхілы,
Быць Вашым вестуном хацеў,
А Вы не блаславілі крылы.

Мой цень забрала засень дрэў,
Лісьцё надзеі ападае,
Як летні дзень я пастарэў,
А Вы як радасьць маладая.

2




**Як страшна мне** ня ўбачыць болей вочы,
Ў якіх плывуць хмурынкі даўніх дзён,
І сорам Ваш жаночы і дзявочы
Разгубленасьць маю бярэ ў палон.

Сябе, як той агонь патухлы, грэю,
Лаўлю з трывогай кожны сумны ўздых,
Ці ў водмаладзь іду, а ці старэю,
Што хочацца абдымкаў маладых.

Мне Вашага паўслова дастаткова
Каб я згубіў развагу і спакой,
І галава мая ў пятлю гатова,
Разьвязаную Вашаю рукой.

Свой лёс цяпер нялёгка перайначыць,
Я хоць надзею кволую тулю.
Дазвольце слухаць Вас, дазвольце бачыць,
Дазвольце не сьпяшацца у пятлю.

1

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Барадулін** Рыгор Іванавіч

# Каб аднойчы

Вершы

Адказны за выпуск *Алесь Калоша*
Рэдактура і вёрстка *Алесь Камоцкі, Міхась Башура, Алесь Квіткевіч*

Падпісана ў друк 14.01.2016. Фармат 70х100/32.
Папера крэйдавая. Друк афсетны. Гарнітура Georgia.
Ум-друк. арк. 2,16. Ул-выд. арк. 0,88. Наклад 1000 асобнікаў. Замова №

Выдавец Калоша А. А.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/149 ад 24.01.2014.
Вул. Якубоўскага, 48-304, 220018, г. Мінск.
**www.Prastora.by**

ТДА «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.